BY


# ГОЛАС ПАМЕЖЖА

№1 31 КАСТРЫЧНІКА 2013

ГОРАДНЯ, БЕРАСЦЕ, ЛІДА, СЛОНІМ, ВАЎКАВЫСК, СМАРГОНЬ, МАСТЫ, ШЧУЧЫН, БЕРАСТАВІЦА, СВІСЛАЧ




*Валанцёры кампаніі «За малы памежны рух!»*

## МАЛЫ ПАМЕЖНЫ РУХ: ТРЫ ГАДЫ ЗАТРЫМКІ

***ЖЫХАРЫ КАЛІНІНГРАДСКАЙ ВОБЛАСЦІ РАСІІ ЎЖО БОЛЕЙ ЗА ГОД ЕЗДЗЯЦЬ У ПОЛЬШЧУ БЕЗ ВІЗЫ. БЕЛАРУСЬ ЯШЧЭ Ў 2010 ГОДЗЕ ПАДПІСАЛА АНАЛАГІЧНУЮ ДАМОВУ, АЛЕ З ГАДЫ НЕ МОЖА НАКІРАВАЦЬ У СУСЕДНЮЮ КРАІНУ ДЫПЛАМАТЫЧНУЮ НОТУ.***

Пагадненне паміж Беларуссю і Польшчай аб малым памежным руху было падпісана міністрамі замежных спраў краін яшчэ ў 2010 годзе. Дамова была ратыфікавана абедзвюма палатамі Нацыянальнага схода ў лістападзе 2010, тады ж закон падпісаў Аляксандр Лукашэнка. Аднак да гэтага часу дамова не дзейнічае. Для яе рэалізацыі патрэбна, каб наша краіна накіравала ў Польшчу дыпламатычную ноту.

На гэты момант Беларусь мае малы памежны рух толькі з аднэй краінай, Латвіяй, які дзейнічае з 1 лютага 2012 года. Расія мае дзеючыя памежныя рухі з Польшчай і Нарвегіяй, а Украіна мае тры такія пагадненні — з Польшчай (ліпрэнь 2009), Славаччынай (верасень 2008) і Венгрыяй (студзень 2008), у той час як Малдова мае Дамову з Румыніяй (кастрычнік 2010).

Грамадскія актывісты з розных гарадоў і мястэчак Беларусі неаднаразова звярталіся да беларускіх уладаў, каб актывізаваць іх дзейнасць па ўвядзенню ў дзеянне дамовы.

Зараз працягваецца збор подпісаў пад анлайн зваротам у Міністэрства замежных спраў Беларусі, адміністрацыю прэзідэнта, старшыням Гродзенскага і Брэсцкага аблвыканкамаў. Некалькі тысяч подпісаў жыхароў беларускага прымежжа было ўжо накіравана беларускім уладам. Пакуль беларускія ўлады не спяшаюцца з рэалізацыяй Пагаднення.

*Працяг на ст. №2*

ПАДПІШЫЦЕ АНЛАЙН ПЕТЫЦЫЮ ДА БЕЛАРУСКІХ УЛАДАЎ У СПРАВЕ ЎВАДЗЕННЯ МАЛОГА ПАМЕЖНАГА РУХУ: HTTP://CHANGE.ORG/BEZVIZYVPOLSHU

# МАЛЫ ПАМЕЖНЫ РУХ: ТРЫ ГАДЫ ЗАТРЫМКІ

*Працяг. Пачатак на ст. №1*




Высокія чыноўнікі тлучаць сваю пазіцыю палітычнымі прычынамі. Яны заяўляюць, што жорсткая пазіцыя Еўразвязу ў адносінах да беларускага кіраўніцтва з'яўляецца галоўнай перашкодай для ўвядзенне ў дзеянне МПР. У сваю чаргу асноўным патрабаваннем Еўропы да беларускіх уладаў застаецца вызваленне і рэабілітацыя палітычных вязняў. Еўрапецы кажуць, што гатовыя ўжо зараз зменшыць аплату за шэнгенскія візы і павялічыць колькасць візаў для Беларусаў. Аднак яны чакаюць адказу ад беларускіх уладаў на свае прапановы ўжо некалькі год.

Пры гэтым беларусы атрымліваюць найбольшую колькасць візаў на душу насельніцтва ў параўнанні з іншымі краінамі свету. Паводле звестак Еўрапейскай камісіі па гэтаму паказчыку з вялікім адрывам мы абганяем суседнія Украіну і Расію. Колькасць шэнгенскіх віз, атрыманых грамадзянамі нашай краіны ў 2012 годзе, склала амаль 700 тысяч. Гэта на 100 тысяч больш, чым у 2011 годзе. Беларусы атрымалі ў мінулым годзе 693425 шэнгенскіх віз катэгорыі «С» і 10054 віз з абмежаваным тэрытарыяльным дзеяннем. Па колькасці ўязных дакументаў, выдадзеных грамадзянам нашай краіны, лідарам з'яўляецца Польшча. Гэтая краіна забяспечыла візамі 291827 беларусаў, Літва выдала 193219 віз, а Германія - 65809.

Калі ж беларускія ўлады нарэшце вырашаць увесці ў дзеянне Пагадненне аб Малым памежным руху з Польшчай і Літвой, гэтым змогуць скарыстацца каля 1,7 млн беларускіх грамадзян.

У.К.

# МАЛЫ ПАМЕЖНЫ РУХ: У ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ

***ШТО ДАЕ МАЛЫ ПАМЕЖНЫ РУХ (МПР)?***

Малы памежны рух дазваляе жыхарам памежнай тэрыторыі наведваць адпаведную тэрыторыю суседняй краіны. Для гэтага не патрэбна віза, а толькі спецыяльнае пасведчанне.

Дазвол на прыгранічны рух - дакумент, які прадстаўляе яго ўладальніку права шматразовага ўезду, выезду і знаходжання толькі на прымежных тэрыторыях.

Дазвол будзе выдавацца ў магчыма кароткі тэрмін , але не пазней , чым на працягу 60 дзён па Дагаворы з Рэспублікай Польшча, а з Латвійскай Рэспублікай і Літоўскай Рэспублікай на працягу 20 рабочых дзён з дня прыняцця заявы разам з неабходнымі дакументамі. У выключных выпадках гэты тэрмін можа быць прадоўжаны да 90 каляндарных дзён, а для Літвы і Латвіі - да 30 рабочых дзён.

Па Дамове з Рэспублікай Польшча першы дазвол выдаецца тэрмінам дзеяння 2 гады, а чарговы - да 5 гадоў. Па пагадненнях з Латвійскай Рэспублікай і Літоўскай Рэспублікай дазвол выдаецца тэрмінам дзеяння ад года да пяці гадоў. Памер збору за прынянцце і разгляд заявы аб выдачы дазволу складае 20 еўра. Ад выплаты збору вызваляюцца некаторыя катэгорыі асоб, названыя ў пагадненнях (напрыклад, пенсіянеры, інваліды, дзеці да 18 гадоў).

Малы памежны рух з'яўяецца першым крокам на шляху да бязвізавай прасторы. У выпадку Беларусі памежны рух магчымы з трыма краінамі – Латвіяй, Літвой і Польшчай.


Rzeczpospolita Polska
MRG
ZEZWOLENIE NA PRZEKRACZANIE GRANICY W RAMACH MAŁEGO RUCHU GRANICZNEGO
ДОЗВІЛ НА ПЕРЕТИН КОРДОНУ В РАМКАХ МІСЦЕВОГО ПРИКОРДОННОГО РУХУ
NAZWISKO: CHEYKOVSKY
IMIONA: WALERY
DATA URODZENIA: 05.10.1976
PŁEĆ: M/M
NUMER DOKUMENTU PODRÓŻY: ZS0000001
OBYWATELSTWO: UKRAIŃSKIE
NUMER ZEZWOLENIA: ZWA900660
01.05.2009
DATA WYDANIA
WZÓR

*Узор дазволу на МПР*




***ШТО АЗНАЧАЕ «ПАМЕЖНАЯ ТЭРЫТОРЫЯ»?***

Памежная тэрыторыя вызначаецца правілам, якое часам называюць «30 з плюсам»: любы населены пункт, частка якога знаходзіцца на адлегласці 30 кіламетраў ад мяжы, лічыцца памежным. Так, у зону ўваходзяць Гродна, Брэст, Вільня і іншыя гарады. Усяго з беларускага боку пад дзеянне трох пагадненняў падпадаюць 228 адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак.

***ДЛЯ КАГО РАЗЛІЧАНЫ МПР І З ЯКОЙ МЭТАЙ МОЖНА АТРЫМАЦЬ ДАЗВОЛ?***

Каб лічыцца жыхаром памежжа, трэба пражыць на памежнай тэрыторыі альбо 1 год (у выпадку з Латвіяй і Літвой), альбо 3 гады (у выпадку з Польшчай). Пасведчанне можа атрымаць любы жыхар памежжа, які дакументальна пацвердзіць неабходнасць часта наведваць памежную зону суседняй дзяржавы. Пасведчанне выдаецца тэрмінам ад 1 да 5 гадоў і каштуе 20 еўра.

Спрошчаны парадак перасячэння мяжы жыхарамі прыгранічных тэрыторый для далейшага знаходжання на прыгранічнай тэрыторыі сумежнай дзяржавы усталёўваецца ў наступных выпадках:

- арганізацыя або ўдзел на рэгулярнай аснове ў культурных, адукацыйных, навуковых і спартыўных мерапрыемствах , якія праводзяцца органамі ўлады і ўстановамі дзяржаў;
- валоданне нерухомасцю;
- наведванне сваякоў;
- цяжкае захворванне або смерць сваякоў;
- наведванне месцаў пахавання сваякоў;
- атрыманне медыцынскай дапамогі;
- удзел у мерапрыемствах , звязаных з мясцовымі традыцыямі і правядзеннем рэлігійных абрадаў;
- ажыццяўленне рэгулярных кантактаў у сферы гаспадарчай дзейнасці без права вядзення працоўнай дзейнасці.

***МПР БЕЛАРУСІ З КРАІНАМІ ЕЎРАЗВЯЗА***

Яшчэ ў 2010 годзе Беларусь падпісала дамовы з урадамі Польшчы, Латвіі і Літвы аб правілах памежнага руху. Але міжнародныя пагадненні з Польшчай і Літвой да сённяшняга часу не ўступілі ў законную сілу.

1 лютага 2012 года рух пачаў дзейнічаць паміж Беларуссю і Латвіяй. За гэты час ім скарысталася больш за 6 тысяч чалавек. Асноўныя мэты везду ў памежжа суседняй дзяржавы – наведванне родных ці ўдзел у культурных мерапрыемствах.

Літоўскі бок у 2011 годзе падпісаў усе неабходныя дакументы і чакае адпаведных крокаў ад Беларусі. 1 сакавіка 2012 Літва афіцыйна паведаміла Беларусі, што гатовая да пачатку малога памежнага руху. Беларускі бок не адрэагаваў на паведамленне да гэтага часу.

1 снежня 2010 года былі падпісаныя ўсе неабходныя дакументы для пачатку МПР паміж Беларуссю і Польшчай. Польшча ўжо даўно даслала ноту аб гатоўнасці. Беларускі МЗС да гэтага часу затрымлівае дыпламатычную ноту з паведамленнем. На практыцы рух не працуе дагэтуль. Беларускі бок кажа аб палітычным характару зацягвання рэалізацыі МПР з Польшчай і Літвой.



***МАЛЫ ПАМЕЖНЫ РУХ У НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ І ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ГРАМАДЗЯН***

Украіна мае дзеючы памежны рух з Польшчай, Славакіяй і Венгрыяй. Расія рэалізуе пагадненні з Нарвегіяй і Польшчай (Калінінградская вобласць), а Малдова з Румыніяй.

1.8 мільёнаў беларускіх грамадзян прымежных тэрыторый могуць скарыстацца МПР (з Латвіяй – 80 тыс, з Літвой – 600 тыс, з Польшчай – 1,1 млн).

23 раёны Беларусі цалкам або часткова ўваходзяць у зону малога памежнага руху.

***У.К.***

СВІСЛАЧ

# У СВІСЛАЧЫ АДЗНАЧЫЛІ 150 УГОДКІ ПАЎСТАННЯ КАЛІНОЎСКАГА




***СЁЛЕТА Ў СВІСЛАЧ УШАНАВАЦЬ ПАЎСТАНЦАЎ ПРЫЕХАЛА КАЛЯ 50 ЧАЛАВЕК. ПЕРАВАЖНА ГЭТА БЫЛІ ГАРАДЗЕНЦЫ, АКТЫВІСТЫ З ВАЎКАВЫСКА, МЯСЦОВЫЯ АКТЫВІСТЫ І НЕКАЛЬКІ ЧАЛАВЕК З МЕНСКА.***

Урачыстасці адбываліся традыцыйна: усклалі кветкі на магіле Віктара Каліноўскага — брата Кастуся Каліноўскага — на гарадскіх могілках, затым арганізавана прайшлі па Свіслачы да помніка Кастусю Каліноўскаму, а таксама да помніка Рамуальду Траўгуту і ўсклалі там кветкі.

Пасля Свіслачы ўсе арганізавана пераехалі ў Якушоўку, у сядзібу Каліноўскіх. Усклалі кветкі каля крыжа, разгарнулі бел-чырвона-белыя сцягі і праспявалі «Магутны Божа».

Увесь гэты час за дзеяміназіралі міліцыянты і здымалі на некалькі камераў, але нікога не затрымлівалі.

***У.К.***

БЕРАСЦЕ

# АЛЕСЬ ЧАРКАШЫН: МЫ БУДЗЕМ ДАМАГАЦЦА АД АДМІНІСТРАЦЫІ ВЫКАНАННЯ ЗАКОНУ



***БЕРАСЦЕЙСКІЯ АКТЫВІСТЫ РЫХТУЮЦЬ СКАРГУ НА ДЗЕЯННІ АДМІНІСТРАЦЫІ МАСКОЎСКАГА РАЁНА Г. БРЭСТ. У МАІ ГЭТАГА ГОДА 84 ЖЫХАРА ЗВЯРНУЛАСЯ ДА МЯСЦОВЫХ УЛАДАЎ З КАЛЕКТЫЎНАЙ ПРАПАНОВАЙ ПАКЛАСЦІ АСФАЛЬТНАЕ ПАКРЫЦЦЁ НА ДАРОГУ ПА ВУЛІЦЫ ПАДГАРОДСКАЯ І ЗРАБІЦЬ ТРАТУАРЫ ДЛЯ РУХУ ПЕШАХОДАЎ. ЯНЫ ТАКСАМА ЗАПАТРАБАВАЛІ АД УЛАДАЎ ПРАВЕСЦІ СУСТРЭЧУ І АБМЕРКАВАЦЬ ІСНУЮЧУЮ СІТУАЦЫЮ. АДНАК АДКАЗУ АД АДМІНІСТРАЦЫІ ГРАМАДЗЯНЕ ЧАКАЮЦЬ ДА ГЭТАГА ЧАСУ.***

Лідар берасцейскіх актывістаў Алесь Чаркашын зазначае: «Мы плануем накіраваць зварот у пракуратуру і аблвыканкам. Няхай яны правераць мясцовую адміністрацыю і дадуць прававую адзнаку яе дзеянням. Людзі звярнуліся да мясцовых уладаў, а чыноўнікі проста праігнаравалі зварот. Мы прасілі правесці сустрэчу, а яны нават не адказалі нам».

***У.К.***

БЕРАСТАВІЦА

# НА МЯЖЫ ВЫЖЫВАННЯ

***БЕРАСТАВІЧЧЫНА НА ЎСХОДЗЕ, ПОЎНАЧЫ І ПОЎДНІ МЯЖУЕ З СУСЕДНІМІ РАЁНАМІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ. НА ЗАХАДЗЕ БЕРАСТАВІЦКІ РАЁН МАЕ ГОНАР БЫЦЬ ЧАСТКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ МЯЖЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ГЭТА НЕ ПРОСТА МЯЖА З РЭСПУБЛІКАЙ ПОЛЬША, АЛЕ АДНАЧАСОВА І З КРЫНКАЎСКАЙ ГМІНАЙ, БЕЛАСТОЦКІМ ВАЯВОДСТВАМ, ЕЎРАСАЮЗАМ, ВІЗАВАЙ ЗОНАЙ ШЭНГЕН.***




Такая характэрная стракартасць заходняй мяжы у многім уплывае на стыль жыцця мясцовага паспалітага люду. З гэтай прычыны большасць мясцовых жыхароў лічыць за патрэбу мець калі не польскую, дык шэнгенскую візу. Пасля яе атрымання у бераставіцкага жыхара пачынаецца жыццё на мяжы выжывання.

Дзяржаўная мяжа забяспечвае людзей працай – памежнікі, мытнікі, страхавыя агенствы, кантроль вагі, раслінны і ветэрынарны кантроль. Але большасць лічыць патрэбным выязджаць у Беласток і прымежныя мястэчкі па розных асабістых справах. Камбініцыю цэнаў на большасць тавараў у параўнанні Польшы з Беларуссю, нашы людзі ацанілі з карысцю для сябе. На самой справе большасць тавараў у Польшы каштуе танней за беларускія у 1,5 – 2 разы. З іншага боку, і у нас есць рэчы, якія каштуюць танней чым у суседзяў. Спакуса разбагацець на розніцы коштаў, або набыць у дом якасны тавар высокая. Людзі нават не звяртаюць увагі на час праведзены ў чэргах на мяжы.

Самыя хадавыя тавары, якія маюць вялікі попыт у Польшчы з прыстойным прыбыткам, гэта дызельнае паліва, цыгарэты і гарэлка. Калі цыгарэты і гарэлка на ўвоз у Польшу моцна абмяжоўваюцца, дык на ўвоз дызельнага паліва польскія мытнікі не глядзяць. У аўтамабіля з дызельным рухавіком есць бак, які напаўняюць па корак. Але і тут ёсць свае праблемы. Беларускія ўлады абмежавалі выезд аўтамабілем у Польшу раз на восем дней. Такім адміністратыўным прыёмам урад Беларусі спрабуе абараніць унутранні рынак паліва.

Зарабіць яшчэ можна і на перакідцы тавара з Польшчы ў Беларусь на замову.

Аднак памежны гандаль нялёгкі занятак. Гэта страта часу у чарзе, які можна было б скарыстаць з большай карысцю, і вельмі стрэсавы занятак. Часам у «прафесійных» памежных гандляроў няма цярпення стаяць доўга ў чарзе. У пошуку хуткіх шляхоў перасячэння мяжы яны часта трапляюць у канфлікт з іншымі грамадзянамі, асабліва з Менска. З польскага боку развязваць такія сітуацыі прыходзіцца памежнай паліцыі.

Праходжанне мытнага кантролю з'яўляецца дадатковым фактарам стрэсу. Штраф у памеры тысячы даляраў можна атрымаць за блок цыгырэтаў. Калі кантрабандыст не можа адразу заплаціць, уезд у Польшу яму будзе забаронены да ліквідацыі запазычанасці. Але негледзячы на гэта, жыцце і інтарэсы на дзяржаўнай мяжы працягваюць віраваць. Розніцы для нашага чалавека няма, калі у самой Беларусі жыццё ў крызісе усё болей і болей прыносіць стрэсу, нібыта на той жа самай мяжы.

*Алег Рамашкевіч*

ВІЗЫ

# ШТО ВАЖНЕЙ – БЯЗВІЗАВЫ РУХ З ГАНДУРАСАМ ЦІ ПОЛЬШЧАЙ?

***БЕЛАРУСКАЕ МЗС ПРАЦУЕ НАД ДАМОВАМІ АБ БЯЗВІЗАВЫМ РУХУ З ГАНДУРАСАМ, НІКАРАГУА І ШЭРАГАМ ІНШЫХ КРАІН. АЛЕ ЖЫХАРОЎ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ ЗНАЧНА БОЛЬШ ЦІКАВЯЦЬ СУСЕДЗІ.***

Яшчэ ўлетку 2011 года Еўразвязам была прапанавана Беларусі Дамова аб візавай фасілітацыі. Яе ўжо прынялі Расія, Украіна і Малдова, таму для іх грамадзян шэнгенскія візы на гэты момант каштуюць 35 еўра. Для іх таксама спрошчана працэдура атрымання Шенгенскіх візаў.

Разам з гэтым падпісваецца дамова аб рэадмісіі. Беларусь не падпісала дамову часткова з-за страху, што ўсе нелегальныя мігранты з Расіі і краін СНД наша краіна будзе павінна прымаць назад за ўласныя сродкі. Аднак перамовы паміж Беларуссю і Еўропай наогул нават не пачыналіся. Прычынай гэтаму з'яўляецца пазіцыя беларускага боку, які не жадае весці перамовы. Варта зазначыць, што 232 высокім беларускім чыноўнікам забаронена наведванне Еўразвязу за парушэнне беларускіх законаў і рэпрэсіі супраць сваіх жа грамадзян.

Як вы лічыце, што для нас важней: бязвізавы рух з далёкімі лацінаамерыканскімі ці азіяцкімі краінамі, або з краінамі Еўропы?

***Калі вы зацікаўлены ў бязвізавым рух з краінамі Еўропы, далучайцеся да нашай кампаніі: rehijon@gmail.com або праз тэл.: +375 033 65 55 249***

БЕРАСТАВІЦА

# ГІСТОРЫЯ ВЕЛІЧНАСЦІ



***ВЕЛІЧНА ПАСЯРОД ВЯЛІКАЙ БЕРАСТАВІЦЫ УЗВЫШАЕЦЦА КАСЦЁЛ НАВЕДЗІНАЎ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ. НАВАТ НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЧАСТКОВУЮ РАЗБУРАНАСЦЬ, ВЕЛІЧ ЯГО ЗАСТАЕЦЦА КРАНАЛЬНАЙ ДЛЯ ЧАЛАВЕЧАГА ВОКА І ДУШЫ.***

Можна закрыць вочы і уявіць яго ва усёй прыгажосці – бялізну сценаў, надзейны дах, прамыя лініі элементаў класічнай архітэктуры. Але гэта усё толькі ўяўленні. На самой справе храм паступова развальваецца. Асабліва працэс паскорыўся пасля пажару 1992 года, калі згарэў дах. Тады своды храма, без даху, неабароненыя ад атмасферных ападкаў, пад уздзеяннем маразоў, рухнулі. Там сям пачалі праламвацца і своды сутарэнняў. Абшарпаны, парослы дрэвамі, завалены будаўнічым смеццем. Вось сучасны знешні і ўнутранні від Божага храма.

Першы яшчэ драўляны касцёл быў пабудаваны тут у 1620 годзе пад уплывам каталіцкага ордэна Кармелітаў. Адсюль за храмам захавалася другая назва - касцёл Кармелітаў.

У 1741 годзе з фундацыі Юзафа Мнішкі (тагачасных уладальнікаў Вялікай Бераставіцы), замест драўлянага храма быў пабудаваны мураваны касцёл. Аснову архітэктуры храма утварыла класічна - гатычная трохнефная базіліка. Кармеліты тут не засталіся, а святыню перадалі Ордэну Іезуітаў.

Ордэн пачаў закладваць вакол касцёла манастыр. Непадалёку ад храма на тэрыторыі сучаснага масласырзавода быў узведзены будынак, дзе знаходзіліся келіі іезуітаў, школка для мясцовых дзетак, а так сама сталоўка для бедных і ўбогіх. Зараз, гэты будынак пераітвораны у склад гатовай прадукцыі. Пачынаючы з 19 стагоддзя храм перайшоў да ўніятаў.

Касцёл закранулі і падзеі паўстання 1863 года. Кажуць, што на плошчы перад касцёлам выступаў з прамовай сам Кастусь Каліноўскі. Некаторые карэнныя старажылы распавядаюць, са слоў сваіх бацькоў і дзядоў, што падчас паўстання у гэтым касцёле друкавалася "Мужыцкая праўда". Імаверна друкарскі станок мог дастацца паўстанцам ад іезуітаў, якія абсталяванне выкарыстоўвалі для асветы навакольнага люду.

Пасля паўстання рассейская ўлада адпомсціла і зачыніла касцёл, а пазней ператварыла яго ў праваслаўны храм. Каталікі вярнуліся ў храм пасля 1920 года, калі пасля польска-савецкай вайны Заходняя Беларусь адышла да Польшчы. Канчаткова зачынены касцёл быў пасля Другой сусветнай вайны і ператвораны у склад райспажыўтаварыства.

У апошнія гады прадпрымаліся спробы рэстаўраваць касцёла. Для гэтага нават ствараліся фонды, але аднаўленне будынка так і не распачалося.

Так і стаіць па сёння недагледжаны Дом Бога, быццам бы прамаўляючы да ўсіх - Уладар, выбач ім, бо не ведаюць, што робяць.

***Алег Рамашкевіч***

ГОРАДНЯ

# ГАРАДЗЕНЦЫ ЗА РОЎНЫЯ ЎМОВЫ КАНКУРЭНЦЫІ НА РЫНКУ ТАКСІ



***БОЛЬШ ЗА 350 ГРАМАДЗЯН ЗВЯРНУЛІСЯ Ў БЕЛАРУСКІ ЎРАД З КАЛЕКТЫЎНЫМ ЗВАРОТАМ ПА АДМЕНЕ АБМЕЖАВАННЯЎ ТЭРМІНАЎ ЭКСПЛУАТАЦЫІ АЎТАМАБІЛЯЎ-ТАКСІ. ПАВОДЛЕ ІНФАРМАЦЫІ ТАКСІСТАЎ ЗАРАЗ ІДЗЕ ПАДРЫХТОЎКА ПРАЕКТА ЎКАЗА ПРЭЗІДЭНТА «АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ АРГАНІЗАЦЫІ ПЕРАВОЗАК АЎТАМАБІЛЯМІ-ТАКСІ“, ЯКІЯ ТЫЧАЦЦА АБМЕЖАВАННІ ТЭРМІНАЎ ЭКСПЛУАТАЦЫІ АЎТАМАБІЛЯЎ-ТАКСІ.***

Таксісты лічаць, што гэтыя меры значна пагоршаць сітуацыю ў сферы пасажырскіх перавозак аўтамабілямі-таксі. Кошт новага аўтамабіля моцна ударыць па дабрабыту прадпрымальнікаў, а іх набыццё для многіх стане непад'ёмным, альбо загоніць у даўгі на многія гады. З-за памяншэння парку машын значна скароцяцца падатковыя выплаты ў бюджэт і павялічыцца падатковая нагрузка на асобна ўзятага перавозчыка. У сваю чаргу канкурэнцыя на рынку таксі паменшыцца ( скароціцца парк) , як следства значна падвысіцца кошт праезду ў таксі. Шматлікія невялікія прадпрыемствы могуць апынуцца на мяжы галечы, а індывідуальныя прадпрымальнікі беспрацоўнымі.

Як зазначыў лідар таксістаў А. Верамеенка: “Выключэнне патрабаванняў у дачыненні да абмежавання тэрмінаў эксплуатацыі аўтамабіляў-таксі дазволіць захаваць працоўныя месцы для значнай колькасці прадпрымальнікаў-таксістаў краіне”.

Зварот таксісты накіравалі ў міністэрства транспарту і камунікацый, а таксама адміністрацыю прэзідэнта. Таксісты спадзяюцца, што іх меркаванне будзе ўлічана заканатворцамі. Яны таксама плануюць іншыя мерапрыемствы па абароне гарантый для роўнай канкурэнцыі на рынку таксі.

***У.К.***

ГОРАДНЯ

# ГАРАДЗЕНСКІЯ ТАКСІСТЫ СУПРАЦЬ ЛАБІСТАЎ КІТАЙСКАГА АЎТАПРАМА

***У НЕТРАХ МІНІСТЭРСТВА ТРАНСПАРТУ І КАМУНІКАЦЫЙ ПАДРЫХТАВАНЫ ПРАЕКТ УКАЗА ПРЭЗІДЭНТА, ЯКІ МОЖА ЦАЛКАМ РАЗБУРЫЦЬ РЫНАК ПАСЛУГ ТАКСІ. ГАЛОЎНЫМІ НОВАЎВЯДЗЕННЯМІ З'ЯЎЛЯЮЦЦА АБМЕЖАВАННЕ ТЭРМІНУ ЭКСПЛУАТАЦЫІ АЎТАМАБІЛЯЎ-ТАКСІ І ЎСТАЛЯВАННЕ ГАБАРЫТАЎ ТРАНСПАРТНАГА СРОДКА ДЛЯ ВЫКАРЫСТАННЯ Ў ЯКАСЦІ ТАКСІ. ПА ЗБЕГУ АБСТАВІНАЎ ГЭТЫЯ ЗМЕНЫ ГРАЮЦЬ НА РУКУ ВЫТВОРЦАМ КІТАЙСКІХ АЎТАМАБІЛЯЎ GEELY.***

У 2012 годзе распачаўся беларуска – кітайскі праект па зборцы аўтамабіляў Geely. Беларуска – кітайскае сумеснае прадпрыемства збіраецца вырабляць у Беларусі больш за 120.000 аўтамабіляў Geely у год да 2019. Расія вуснамі свайго пасла ўжо выказала незадаволенасць гэтым праектам і тым ці іншым спосабам ўвядзе абмежаванні на ўвоз кітайскіх аўтамабіляў на сваю тэрыторыю. На еўрапейскі рынак Geely таксама не будзе пастаўляцца, значна саступаючы еўрапейскім, японскім і амерыканскім вытворцам па якасці і бяспецы прадукцыі. Для грандыёзнага праекта па зборцы кітайскага аўто застаецца толькі ўнутраны рынак Беларусі і таксісты з'яўляюцца першымі, на каго беларуская дзяржава і лабісты кітайскага аўтапрама перакладае выдаткі вытворчасці.

Калі будзе прыняты праект указа з абмежаваннем тэрміну эксплуатацыі і габарытамі аўтамабіляў- таксі, сітуацыя ў галіне пасажырскіх перавозак у беларускіх гарадах значна пагоршыцца. На гэты момант каля 90 % парку аўтамабіляў-таксі не задавальняюць патрабаванням указу.

Кошт аплаты за праезд у таксі ўзрасце дзякуючы значнаму скарачэнню аўтапарка таксі. Час падачы таксі заказчыку павялічыцца да 30 – 40 хвілін. Адбудзецца пераход прадпрымальнікаў на нелегальнае становішча, што значна зменшыць плацяжы ў бюджэт.

У сувязі з мерамі, што прымаюцца, уладальнікі таксі будуць вымушаныя купляць кітайскія аўтамабілі беларускай зборкі або прадукцыю расійскага аўтапрама. Гэтыя аўтамабілі па тэхнічнай эксплуатацыі і бяспецы ў разы саступаюць еўрапейскім аналагам. Які аўтамабіль больш камфортны – Аўдзі або Лада? Які больш надзейны – Фольксваген або Geely? Які больш бяспечным – Mercedes або Волга? Адказ відавочны.

Аўтамабіль-таксі праходзіць дзяржтэхагляд два разы на год. Перад выездам на лінію да пачатку працы машына праходзіць перадрэйсавы агляд аўтамеханіка. Магчымасць эксплуатацыі транспартнага сродку, які знаходзіцца пад пастаянным тэхнічным наглядам, павінна вызначацца яго тэхнічным станам, а не тэрмінам эксплуатацыі.

Дзяржава выбарачна прымяняе патрабаванні да розных уласнікаў. Для дзяржаўных перавозчыкаў з аўтапаркаў срок эксплуатацыі рэйсавых аўтобусаў неабмежаваны. Хоць колькасць пасажыраў на рэгулярных маршрутных аўтобусах значна больш, а некаторыя з іх эксплуатуюцца не адзін дзясятак гадоў. Аднак беларускія ўлады прымяняюць зусім іншыя падыходы да прыватнікаў – таксістаў.

Праектам указа прадугледжана, што «старыя» аўтамабілі будуць дапушчаныя да працы да 1 студзеня 2016. Аднак гэта не з'яўляецца вырашэннем праблемы, а адцягванне яе на паўтара года, пасля чаго паўстануць тыя ж пытанні.

Беларускія таксісты з г. Гродна выступілі з ініцыятывай за адмену вышэйзгаданых абмежаванняў па тэрмінах эксплуатацыі і габарытах аўтамабіляў- таксі. Яны выступаюць за рынкавыя ўмовы рэгулявання паслуг таксі і празрысты механізм ліцэнзавання гэтага віду дзейнасці. Дзяржава павінна стварыць справядлівыя ўмовы для канкурэнцыі, а не абараняць інтарэсы кітайскіх і расійскіх вытворцаў аўтамабільнай тэхнікі ў шкоду бяспецы і камфорту беларускіх грамадзян.

**Далучыцца да кампаніі беларускіх таксістаў можна па кантактным тэлефоне : +375 29 783-40-82.**

ІНТЭРВ'Ю

# ЛЕШАК ШАРЭПКА: «МЫ Ў ЕЎРАСАЮЗЕ СПРАБУЕМ РАБІЦЬ УСЁ, КАБ МЯЖА БЫЛА ПРАЗРЫСТАЯ, КАБ ЯНА НЕ ПЕРАШКАДЖАЛА, А СПРЫЯЛА СУПРАЦОЎНІЦТВУ»



***ПРА ТОЕ, ЯК ПОЛЬСКІЯ ДЫПЛАМАТЫ БАЧАЦЬ ВІЗАВЫЯ ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСАЎ, А ТАКСАМА ПРА ЧЭРГІ НА МЯЖЫ І УСХОДНЯЕ ПАРТНЁРСТВА, У ІНТЭРВ'Ю ЕЎРАРАДЫЁ РАСКАЗАЎ АМБАСАДАР ПОЛЬШЧЫ ЛЕШАК ШАРЭПКА. «ГОЛАС ПАМЕЖЖА» АБРАЎ НАЙБОЛЬШ ЦІКАВАВЫЯ ВЫКАЗВАННІ ПОЛЬСКАГА ДЫПЛАМАТА.***

***Пра адносін паміж Беларуссю і ЕС***

Л.Ш.: «Я б не сказаў, што Беларусь спрабуе наноў наладзіць адносіны з Еўрасаюзам – гэта двухбаковы рух. Але тут ёсць праблемы каштоўнасцяў, у тым, як мы разумеем гэта супрацоўніцтва, як бы мы хацелі супрацоўнічаць. У нас прапаноў для беларускага боку шмат, але пытанне ў тым, колькі беларускі бок зможа ўспрыняць. Я тут тры гады ўжо працую, але так і не заўважыў ніякіх істотных зрухаў у гэтым накірунку».

***Пра спрашчэнне візавага рэжыму***

Л.Ш.: «Прапанова аб аблягчэнні візавага рэжыму і дамова аб рэадмісіі ляжаць на стале ў беларускіх улад ужо два гады. Мы ў Еўрасаюзе спрабуем рабіць усё, каб мяжа была празрыстая, каб яна не перашкаджала, а спрыяла супрацоўніцтву. Адсюль і наша прапанова наконт лібералізацыі візавага рэжыму, зніжэння кошту віз да 35 еўра. З Украінай усё гэта працуе. У гэтым жа пакеце – прапанова задзейнічаць малы памежны рух. Якая палітыка на гэты конт беларускіх уладаў – не мне яе ацэньваць. Вы, беларускія грамадзяне, павінны гэтую палітыку ацэньваць. Маю адно – свае прапановы на гэты конт мы перадалі летам 2011 года і да гэтага часу не маем на іх адказу. Не ведаю, чаму».

***Пра праблемы з электроннай рэгістрацыяй***

Л.Ш.: «Электронная рэгістрацыя аблягчае працу — можна хутчэй апрацаваць візавыя анкеты. Праблема ў тым, што калі ёсць вялізны попыт, то заўсёды знойдуцца ўмельцы, якія захочуць на гэтым зарабіць. Адсюль узяліся і тыя скрыпты, аўтаматычнае запаўненне анкеты. Мы спрабуем з гэтым змагацца, а гэта – ціхі фронт. Мы нешта прапануем – яны праз пэўны час ізноў вяртаюцца ў гульню. Мы думаем, каб змяніць правілы гульні: магчыма, будзем рабіць call-цэнтры. Некалькі месяцаў таму іспанцы адкрылі такі — паглядзім на яго працу, можа скарыстаемся вопытам».

***Пра апрацоўку візавых анкет***

Л.Ш.: «Цэнтр тэхнічнай апрацоўкі віз знаходзіцца ў Варшаве і ўсе візы ідуць праз Варшаву. У нас працуюць толькі консулы, якія вырашаюць – даць чалавеку візу ці не. У Варшаве працуюць выбітныя спецыялісты, якія пастаянна думаюць пра ўдасканальванне сістэмы. Але калі знаходзяцца ўмельцы, якія ломяць коды ў Пентагоне, што здзіўляцца, што гэта здараецца з нашай сістэмай! Мы робім усё, каб зняць праблему з электроннай рэгістрацыяй. Але калі зрабіць паспешныя крокі, то можна і нашкодзіць. Трэба некалькі месяцаў пачакаць».

***Пра зацікаўленасць супрацоўнікаў консульства ў існаванні праблем з рэгістрацыяй***

Л. Ш.: «Гэта ўвогуле немагчыма! У нас ёсць розныя кантрольныя органы. Летась у лістападзе ў нас была праверка з кантрольнай палаты Польшчы, якая не знайшла тут нічога. Мы пад пастаянным кантролем, і тут складана было б нешта зрабіць супрацьзаконнае».

***Пра попыт на візы сярод беларусаў***

Л.Ш.: «Беларусь з'яўляецца чэмпіёнам свету па колькасці шэнгенскіх віз – у вас 7-8% насельніцтва мае такія візы. Гэта ў некалькі разоў больш, чым у Расіі, і ў тры разы больш, чым ва Украіне. У вас надзвычайны попыт на шэнгенскія візы, і тут узнікае праблема».

***Пра Беларусь і Усходняе Партнёрства***

Л.Ш.:»Месца Беларусі ў гэтай ініцыятыве асаблівае. Усе астатнія партнёры маюць нейкія пагадненні з ЕС, а Беларусь не мае ніякага! Паглядзіце: з Украінай, Грузіяй, Малдовай мы ўжо размаўляем пра Дамову аб асацыяцыі – пра паглыбленую зону свабоднага гандлю. А з Беларуссю мы не можам нават увесці ў дзеянне такія простыя рэчы, як малы памежны рух ці аблегчаны візавы рэжым. Гэта першыя крокі, якія трэба зрабіць, а ў нас нават у гэтым праблемы. Беларусь сярод усіх астатніх партнёраў – у самым канцы і не выкарыстоўвае тых магчымасцяў, што ёсць. У нас нават з Расіяй ёсць «Партнёрства для мадэрнізацыі», а з Беларуссю нічога не атрымліваецца! У адносінах з Беларуссю мы губляем час і мне сёння складана казаць, што ўяўляе Усходняе партнёрства для Беларусі».

***Пра тое, што губляе Беларусь***

Л.Ш.: «Калі б было жаданне супрацоўнічаць, то вы б за 35, а то і за 20 еўра атрымлівалі візы. А журналісты і пэўныя іншыя групы грамадзян іх і ўвогуле атрымлівалі б бясплатна. А зоны свабоднага гандлю ўплываюць на ўсю эканоміку. Гэта – гуманны штуршок для ўсёй эканомікі, каб яна хутчэй мадэрнізавалася, мяняла агульнае аблічча. Без гэта вы будзеце сыравінным дадаткам таго ж Еўрасаюза, пастаўшчыком таннай працоўнай сілы».

***Пра чэргі на мяжы***

Л.Ш.»Інфраструктура на мяжы не такая ўжо дрэнная. Зараз мы працуем над пешаходным пераходам «Пясчатка» – мы там рамонт ужо зрабілі і зараз будуць яго рабіць беларусы са свайго боку, каб значна павялічыць прапускную магчымасць. Але ёсць штучныя перашкоды: з нашага боку – розныя «італьянскія страйкі», у вас таксама не да канца ўсё працуе. Часам пераход нагадвае бутэльку – з аднаго боку добры пад'езд, а з другога – як рыльца, вузкі. Ёсць такі інструмент, як польска-беларуская ўрадавая камісія па транспамежным супрацоўніцтве. Я прапаную, каб камісія сустрэлася і пагаварыла – ёсць праблемы прававаыя. Амаль на ўсіх нашых памежных пераходах ёсць масты. Каб іх рамантаваць, неабходна мець адпаведныя прававыя пагадненні. У нас ёсць пагадненні на гэты конт ад 1960-х гадоў, якія мы з Савецкім Саюзам падпісвалі – з вашай краінай мы нічога не падпісалі. І гэта перашкаджае дамовіцца: хто за што на гэтых мастах адказвае, якую частку рамонту будзеце вы аплачваць, якую мы – каб усё паводле закону было. Я зараз спрабую актывізаваць працу гэтай камісіі. І тады будзем гаварыць пра тое, як палепшыць абстаноўку на мяжы»

***ГП***

КАПЦЁЎКА

# СЯЛЯНЕ ЗА РОЎНЫЯ ЎМОВЫ ГАСПАДАРАНЯ

***У ВЁСЦЫ КАПЦЁЎКА КАЛЯ ГОРАДНІ 30 КАСТРЫЧНІКА АДБЫЎСЯ СХОД СУПРАЦЬ НЕЗАКОННЫХ ПАТРАБАВАННЯЎ МЯСЦОВЫХ УЛАДАЎ. ВЫКАНКАМ ПАТРАБУЕ АД СЯЛЯНАЎ ДА 1 СНЕЖНЯ ПАЗБАВІЦЦА АД СВІННЯЎ НА ПРЫВАТНЫХ ПАДВОРКАХ.***

Каля будынку сельсавету прайшоў сход, у якім узялі ўдзел каля 30 сялянаў. На сход былі запрошаныя старшыні райвыканкаму, сельсавету і калгасу. Калі старшыні сельсавету і калгасу ў сходзе ўдзельнічалі, то замест старшыні райвыканкаму прыехалі міліцыянты і людзі ў цывільным з Горадні. Яны здымалі мітынгоўцаў на фота і відэа. На сход таксама запрасілі журналістаў Белсату, але ўлады не далі ім здымаць тое, што адбывалася.

Старшыня СПК Рышард Папко заклікаў сялянаў разыходзіцца, а старшыня сельсавету Іван Сліжэўскі нават не мог адказаць на многія пытанні мітынгоўцаў.

На сходзе сяляне, у некаторых з якіх шматдзетныя сем'і, адзначалі, што знішчэнне свінняў пакіне іх без сродкаў да існавання. Гучалі заклікі да актыўнай абароны прыватных гаспадарак ад уладаў.

Як зазначыў Мікола Баўсюк: «Мы будзем змагацца за нашыя інтарэсы і правы далей. Улады павінны дзейнічаць у рамках канстытуцыі і закона. Яны павінны гарантаваць роўныя ўмовы гаспадарання для розных форм уласнасці. Аднак мясцовыя чыноўнікі прымаюць пастановы, якія ставяць на мяжу выжывання нашыя сем'і. Для многіх свінагадоўля складае значную частку даходаў іх сямей. У той час для дзяржаўных фермаў няма ніякіх абмежаванняў і што там адбываецца нікому не вядома.»

***У.К.***

ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ

# ГРАМАДСКІ КААРДЫНАЦЫЙНАЯ РАДА ПРАЦЯГВАЕ БАРАЦЬБУ ЗА ІНТАРЭСЫ СЯЛЯН




***У ШЭРАГУ РЭГІЁНАЎ ГРАМАДСКАЯ КААРДЫНАЦЫЙНАЯ РАДА ДЗЕЛЯ СУПОЛЬНАГА ЗМАГАННЯ З АФРЫКАНСКАЙ ЧУМОЙ СВІНЕЙ ПРАЦЯГВАЕ ЗБОР ПОДПІСАЎ ПАД ПРАПАНОВАЙ АБ АДМЕНЕ ЗАБАРОНЫ ЎТРЫМАННЯ СВІНЕЙ У РАДЫУСЕ НЕ МЕНЕЙ ЗА 5 КМ АД БУЙНЫХ СВІНАКОМПЛЕКСАЎ.***

Рада ставіць на мэце адмену п. 52 Ветэрынарна-санітарных правіл вырошчвання свіней, якія тычацца забароны ўтрымання свіней сялянскімі (фермерскімі) гаспадаркамі і фізічнымі асобамі ў радыусе не меней за 5 км ад комплексаў.

6 мая 2013 года Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь была прынята Пастанова № 15 «Аб зацвярджэнні ветэрынарна-санітарных правіл вырошчвання свіней». Пастановай № 30 ад 12.07.2013 года былі прынятыя змены і дапаўненні ў п. 52 Ветэрынарна-санітарных правіл вырошчвання свіней, згодна з якім «у радыусе не меней за 5 км ад комплексаў забараняецца ўтрыманне свіней сялянскімі (фермерскімі) гаспадаркамі і фізічнымі асобамі, у тым ліку індывідуальнымі прадпрымальнікамі».

Паводле меркавання Рады ўсталяваны п. 52 ветэрынарна-санітарны рэжым і правілы вырошчвання свіней на свінакомплексах і сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак фізічнымі асобамі, у тым ліку прадпрымальнікамі) парушае канстытуцыйны прынцып роўнасці суб'ектаў усіх форм гаспадарання. Згодна з артыкулам 13 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржава прадастаўляе ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх форм уласнасці. Усталяваны правіламі ветэрынарна-санітарны рэжым значна пагаршае становішча сялянскіх, фермерскіх гаспадарак і прадпрымальнікаў у параўнанні з свінагадоўчымі комплексамі, якія належаць акцыянерным таварыствам і дзяржаве.

Санкцыянаваныя Мінсельгасхарчам і вышэйзгаданымі зменамі ў Ветэрынарна-санітарныя правілы дзеянні мясцовых уладаў прывялі да росту сацыяльнай напружанасці ў сельскіх раёнах краіны, значным стратам з боку сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак і прадпрымальнікаў. Дзеянні ўладаў моцна ўдарылі па дабрабыту многіх беларускіх сем'яў, даходы якіх залежаць ад свінагадоўлі. Акрамя таго, мясцовыя ўлады апынуліся непадрыхтаванымі да рэалізацыі такіх маштабных мерапрыемстваў па прафілактыцы распаўсюду афрыканскай чумы свіней і часам выкарыстоўваюць варварскія метады ліквідацыі свіней.

Камітэт па барацьбе з АЧС прапануе прыняць п. 52 Ветэрынарна-санітарных правіл вырошчвання свіней у рэдакцыі Пастановы Мінсельгасхарчу № 15 ад 06.05.2013 г., згодна з якім «у радыусе 10 км ад комплексаў усё пагалоўе свіней падвяргаецца ветэрынарнаму абследаванню і прафілактычным апрацоўкам супраць заразных хвароб у адпаведнасці з планам супрацьэпізаатычных мерапрыемстваў і з улікам эпізаатычнай абстаноўкі».

Далучайцеся да дзейнасці Грамадзкай каардынацыйнай рады дзеля супольнага змагання з афрыканскай чумой свіней і разам абаронім нашы інтарэсы!

**Кантактны тэл.: +375 33 653 65 04.**

АСТРАВЕЦ

# ПАЧЫНАЮЦЦА РАБОТЫ ПА БУДАЎНІЦТВУ БЕЛАРУСКАЙ АЭС: АКТЫВІСТЫ КАЖУЦЬ АБ ПАРУШЭННЯХ




***3 ЛІСТАПАДА ГЭТАГА ГОДА ПЛАНУЕЦЦА ПАЧАТАК РАБОТ ПА БУДАЎНІЦТВЕ АЭС У АСТРАВЕЦКІМ РАЁНЕ. ПАВОДЛЕ ЗАЯВЫ СТАРШЫНІ РАЙВЫКАНКАМА ПАДРЫХТОЎЧЫЯ ПРАЦЫ НА ДВУХ РЭАКТАРАХ ГАТОВЫЯ НА 100%. СТВОРАНА ПІЯНЕРСКАЯ БУДАЎНІЧАЯ БАЗА, НА ЯКУЮ ЗАТРАЧАНА 77 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ, ПАБУДАВАНА 33 КІЛАМЕТРЫ ЧЫГУНКІ І 24 КІЛАМЕТРЫ АЎТАДАРОГІ. ЗАРАЗ ВЯДЗЕЦЦА БУДАЎНІЦТВА ЖЫЛЫХ МІКРАРАЁНАЎ.***

На аб'екце працуе каля 1,6 тыс. будаўнікоў, з якіх 95% маюць беларускае грамадзянства. Да канца года плануецца прыцягнуць да 3 тыс. будаўнікоў.

Аднак існуюць праблема з праектаваннем. Праектныя арганізацыі здаюць дакументы запознена.

Па словах мясцовых жыхароў на атамную больш бяруць іншагародніх, чым мясцовых.

Уладкавацца работнікам на АЭС чалавеку з сельскай мясцовасці немагчыма. Таксама ў людзей незадаволенасць выклікае розніца ў заробках для беларускіх спецыялістаў і замежных, у якіх даходы значна вышэй.

Актывіст антыядзернай кампаніі з Варнянаў Мікалай Уласевіч сцвярджае аб парушэнні Канвенцыі Эспо па будаўніцтве атамнай электрастанцыі ў Астраўцы. Ён кажа: «Ёсць адпаведнае міжнароднае заканадаўства, якое патрабуе, як кажуць, трымаць у курсе спраў усіх суседзяў. Але, наколькі я разумею сітуацыю, Беларусь так і не прайшла тыя працэдуры, якія прадугледжаны міжнародным заканадаўствам. У прыватнасці, яна не дала адказы на ўсе пытанні, якія выставіў літоўскі бок»

Некаторыя эксперты скептычна глядзяць на магчымасць пабудовы АЭС у Беларусі. Яны прыводзяць прыклад Калінінградскай вобласці, дзе работы па будаўніцтву падобнай станцыі прыпыненыя.

СЛОНІМ

# ЖЫХАРЫ СУПРАЦЬ ЗАКРЫЦЦЯ БІБЛІЯТЭКІ

***ЖЫХАРЫ ВЁСКІ ЧАМЯРЫ СЛОНІМСКАГА РАЁНУ ВЫСТУПІЛІ З ПРАТЭСТАМ СУПРАЦЬ ПЛАНАЎ УЛАДАЎ ЗАКРЫЦЬ ІХ БІБЛІЯТЭКУ, ЯКАЯ БЫЛА ЗАСНАВАНАЯ СЯЛЯНАМІ Ў 1927 ГОДЗЕ І НОСІЦЬ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА. АДНАК РАЁННАЕ НАЧАЛЬСТВА НЕ ІДЗЕ НА КАМПРАМІС.***

Паводле вяскоўцаў у бібліятэку ходзіць каля 300 чалавек, у тым ліку 60 дзетак. Бібліятэка была заснаваная ў 1927 годзе, за Польшчай, падпольна. Падпольна жыхары вёскі хавалі кнігі і падчас Другой усясьветнай вайны.

Да гэтага часу ў вёсцы застаўся толькі адзін культурны цэнтр — гэта бібліятэка. Яшчэ раней зачынілі лазню, ФАП. Транспарт да гораду таксама ходзіць дрэнна.

Вяскоўцы ў кастрычніку правялі сход у памяшканні бібліятэкі і выказалі пратэст супраць планаў закрыць бібліятэку. Аднак мясцовыя ўлады заявілі, што на ўтрыманьне бібліятэкі няма сродкаў. Вяскоўцы абурыліся, пабачыўшы, на якой дарагой машыне на сход да іх прыбыў старшыня Слонімскага райвыканкаму Іосіф Паўлюкевіч.




Для таго каб падтрымаць вяскоўцаў і захаваць беларускую бібліятэку, вы можаце напісаць ліст на адрас Слонімскіх уладаў: старшыня Слонімскага райвыканкама І. Паўлюкевіч, вул. Чырвонаармейская, 40, 231800 г. Слонім, Гродзенская вобл. Або патэлефанаваць у прыёмную па тэл.: (01562) 21136 ці напісаць эл. ліст на адрас: slonim-ispolkom@mail.grodno.by.

МАСТЫ

# ЕЎРАПЕЙСКАЯ ДАПАМОГА ЖЫХАРАМ МАСТОЎ

***НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА КЕПСКІЯ АДНОСІНЫ ПАМІЖ КІРАЎНІКОМ БЕЛАРУСІ І ЕЎРАСАЮЗАМ ЕЎРАПЕЙЦЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ПРАДАСТАЎЛЯЦЬ ДАПАМОГУ БЕЛАРУСАМ. УЖО БОЛЕЙ ЗА ГОД У МАСТОЎСКІМ РАЁНЕ РЭАЛІЗУЕЦЦА ПРАЕКТ ЕС / ПРААН ПА АСОБНЫМ ЗБОРЫ БЫТАВЫХ АДХОДАЎ.***

Дзякуючы праекту для збору другасных матэрыяльных рэсурсаў у Мастах усталявана 60 кантэйнерных пляцовак. На кожнай размешчана па адным кантэйнера аб'ёмам 1,1 м $^3$ для збору макулатуры, шкла і пластыка, і два кантэйнера 0,75 м $^3$ для змешаных адходаў.

Праект ЕС / ПРААН «Садзейнічанне развіццю ўсёабдымнай структуры міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь» фінансуецца Еўрапейскім саюзам і Праграмай развіцця ААН. На рэалізацыю экалагічных ідэй выдзелена больш за 5 мільёнаў еўра. Праект плануецца рэалізаваць да мая 2014 года.

Стратэгіяй па абыходжанні з адходамі прадугледжана ўсталяваць дыферэнцыраваныя нарматывы аплаты за паслугі санітарнай ачысткі. Частка насельніцтва, якая не сартуе адходы, будзе плаціць больш, чым насельніцтва, якое займаецца сартаваннем.

У рамках рэалізацыі праекта для жыхароў прыватнага сектара ў г. Масты закупілі 920 кампосцераў. Да дамовы на вываз смецця заключана дадатковае пагадненне, дзе пазначана, што насельніцтва абавязана ўтрымліваць кантэйнер ў працоўным стане, у захаванасці і ў той жа час не вывозіць зялёныя адходы (харчовыя адходы, галінкі, пустазелле) на пахаванне.

Грамадскія актывісты таксама далучыліся да кампаніі па экалагічнай адукацыі насельніцтва. У горадзе актывісты зялёнага руху ў рамках кампаніі «Грамадзянская Гарадзеншчына» распаўсюдзілі інфармацыйныя ўлёткі. Праз матэрыялы кампаніі жыхары даведваюцца аб правільнай сартыроўцы смецця.

*У.К.*




| Кантэйнер з сеткай і жоўтым надпісам «ПЛАСТИК» | Кантэйнер з чырвоным надпісам «МАКУЛАТУРА» | Кантэйнер з чырвоным надпісам «СТЕКЛО» |
|---|---|---|
| ✓ **СЮДЫ КІДАЙ:** | ✓ **СЮДЫ КІДАЙ:** | ✓ **СЮДЫ КІДАЙ:** |
| Бутэлькі пасля напояў (пажадана скамечаныя) | Газеты і часопісы | Шкляныя бутэлькі і банкі пасля напояў і прадуктаў харчавання |
| Бутэлькі пасля мыйных сродкаў | Каталогі і брашуры | Бутэлькі пасля алкагольных напояў |
| Пластмасавыя крышкі | Школьную і офісную паперу | Шкляныя банкі пасля касметыкі |
| Пластыкавыя пакеты, сумкі, мяшкі | Кнігі ў мяккай вокладцы або кнігі са знятай цвердай вокладкай | Тэлевізійныя экраны і лямпы |
| Пластыкавыя кошыкі пасля садавіны | Папяровыя мяшкі | Посуд |
| | Абгортачную паперу | Аконнае шкло |
| | Кардонныя скрынкі | Люстэркі |
| | Кардон | Фарфор і кераміку |
| ⊗ **СЮДЫ НЕ КІДАЙ:** | ⊗ **СЮДЫ НЕ КІДАЙ:** | ⊗ **СЮДЫ НЕ КІДАЙ:** |
| Тару з-пад фарбы і небяспечных хімічных чысцячых сродкаў | Брудную паперу і паперу ў тлушчы | Неонавыя, энергазберагальныя і ртуцевыя лямпы |
| Бакі з-пад алею | Паперу з фальгой | Фары |
| Пластыкавую ўпакоўку, забруджаную алеямі альбо тлушчамі | Тэрмапаперу і скрынкі пасля малака і напояў | Ізалятары |
| | Мяшкі пасля цэменту і шпалеры | Кантактныя лінзы |
| ! **ПАМЯТАЙ:** | ! **ПАМЯТАЙ:** | ! **ПАМЯТАЙ:** |
| Кідаць толькі чыстыя апакаванні і пажадана скамячыць бутэльку, перш чым выкінуць | Выкідваць чыстыя апакаванні | Не біць шкло, перш чым выкінуць |

У выпадку пытанняў пішыце нам на e-mail: eumasty@gmail.com

АРГАНІЗАТАРЫ І ПАРТНЁРЫ:










МАТЭРЫЯЛ ПАДРЫХТАВАНЫ Ў РАМКАХ КАМПАНІІ «ГРАМАДЗЯНСКАЯ ГАРАДЗЕНШЧЫНА»

Vilnius, Lithuania, Universitete gatve, 4. Друкарня Марціна Кухты. Тыраж: 299 асобнікаў.

ШЭНГЕНСКАЯ ЗОНА

# ЗМЕНЕНЫ ПРАВІЛЫ НАВЕДВАННЯ КРАІНАЎ ШЭНГЕНСКАЙ ЗОНЫ

***З 18 КАСТРЫЧНІКА ГЭТАГА ГОДА ЗМЕНЕНЫ ПРАВІЛЫ НАВЕДВАННЯ ШЭНГЕНСКАЙ ЗОНЫ. ДЛЯ ТЫХ, ХТО НАВЕДВАЕ ШЭНГЕНСКУЮ ПРАСТОРУ НЕ ВЕЛЬМІ ЧАСТА, ЗМЕНЫ НЕ МЯНЯЮЦЬ РОЎНЫМ ЛІКАМ НІЧОГА.***







Аднак зараз для ўсіх консульстваў краін Шэнгенскай зоны з'явілася патрабаванне прымаць на візу толькі тыя пашпарты, якія з'яўляюцца прыдатнымі як мінімум 3 месяцы пасля меркаванай даты выезду з Шэнгенскай зоны (у абгрунтаваных надзвычайных выпадках консульства могуць не звяртаць увагі на гэтае патрабаванне) і выдадзены на працягу апошніх 10 гадоў.

Толькі тым, хто балансуе на мяжы 90-дзённага перыяду ў паўгода, трэба быць больш уважлівым пры паездках у ЕС. У многіх выпадках і для іх новаўвядзенне нічога не зменіць, але пры некаторых раскладах знаходжання сітуацыя мяняецца.

Калі беларус ужо знаходзіўся 90 дзён у Шэнгенскай зоне з лютага па чэрвень і хацеў бы правесці яшчэ 90 дзён са жніўня па кастрычнік. Па старых правілах гэта было б магчымым, паколькі новая кропка адліку пачынаецца ў жніўні і да канца кастрычніка працягласць знаходжання не перавысіць 90 дзён.

Аднак па новых правілах, якія ўведзены ў дзеянне 18 кастрычніцка, дапушчальныя 90 дзён за апошнія 180 дзён ужо перавышаныя, і прыйдзецца пачакаць.

Акрамя гэтага, раней тэарэтычна можна было легальна правесці ў Шэнгенскай зоне каля 180 дзён, разбіўшы іх адначасовым выездам. Напрыклад, наведаўшы шэнген 1 ліпеня і ў той жа дзень вярнуўшыся, а потым - з кастрычніка да 30 снежня, а далей - з 1 студзеня да канца сакавіка (з наступным трохмесячным перапынкам). Цяпер так не атрымаецца, аднак адкрываюцца некаторыя іншыя магчымасці.

# ДАЛУЧАЙСЯ!

## *ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ Ў СПРАВЕ ЎВЯДЗЕННЯ МАЛОГА ПАМЕЖНАГА РУХУ:*

- падпісаць петыцыю (http://change.org/bezvizyvpolshu);
- распаўсюдзіць улёткі і інфармацыю;
- сабраць подпісы за ўвядзенне МПР;
- напісаць зварот чыноўнікам і інш.;

Звяртайцеся па электроннай пошце: rehijon@gmail.com або па маб. тэл.: +375 033 65 55 249

Стань валанцёрам кампаніі і дасылай нам свае ідэі!




Незалежнае інфармацыйнае выданне "Голас памежжа"
Заснавальнік і выдавец: Цэнтр грамадскіх ініцыятыў "Рада народных дэпутатаў"
Email: rehijon@gmail.com
Надрукавана на ксераксе п. М. Кухты. Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Яська-гаспадар з-пад Горадні

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 31 кастрычніка 2013 г.
Тыражаванне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.